# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"

Viestki j Paviedamlenni

Сусьветнае сеціва: e-krama.com, www.baza-belarus.org
Электронны адрас: viestki@mail.com
✉ VIESTKI, P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735

№ 10 (560)
Кастрычнік 2012 г.


# NOBAMA

## альбо ці варта наступаць на тыя ж граблі

Успаміны пра выбарчую прэзыдэнцкую кампанію 2008 году ў мяне досыць маркотныя. Тады ўпершыню надзвычай для мяне выразна і рэльефна паўстала зьява пераходу на ўзровень веры, на ўзровень ірацыянальнасьці тых грамадзкіх і сацыяльных рэчаў, якія заўсёды мусяць заставацца на ўзроўні рацыянальным і крытычным, правярацца і пераправярацца праз аб'ектыўныя грамадзка-сацыяльныя ды эканамічныя крытэры. Меркаваньні эстэтычныя і квазі-этычныя пераважылі сабою чыньнікі паліталёгіі, звычайных амэрыканскіх выбарчых працэдураў, мэдыйнай аб'ектыўнасьці ды проста здаровага сэнсу. Тады я пабачыў, як грамадзтва ЗША імкнецца наступіць на граблі.

Невядомы малады сэнатар з Чыкага быў намінаваны на прэзыдэнта ЗША. Гэты чалавек меў экзатычнае імя Барак Хусэйн Абама, меў цёмны колер скуры і ганарыстую манэру трымаць сябе. Хай не ўвядзе ў зман найменьне "сэнатар". У выніку палітыкаваньня ў справе выкройваньняў выбарчых акругаў для дамінацыі ў іх пэўных расава-этнічных групаў, мноства афраамэрыканскіх акругаў высоўваюць прадстаўнікоў, колер скуры якіх ёсьць адзіным пераважаючым крытэрам, вартасьцю й аргумэнтам. Кангрэс ЗША ведае мноствы прыкладаў бізарных, на мяжы вар'яцтва, паводзінаў абраньнікаў, якія ў іншых умовах не былі б абраныя нават у бацькоўскі камітэт школы, не кажучы пра любы самы ніжэйшы ўзровень заканадаўчай улады. Дык вось, малады сэнатар, што аніяк не зарэкамэндаваў сябе ў Сэнаце, які ня меў перад гэтым ніякай сапраўднай працы акрамя імглістай пасады "грамадзкага арганізатара", раптам зрабіўся супернікам Гілары Клінтан, досыць уплывовай і "раскручанай" палітычнай фігуры ў Дэмакратычнай партыі. Пермогшы Г. Клінтан, Б. Х. Абама выйшаў фінал змаганьня за прэзыдэнцкую пасаду. Апанэнт Абамы, сэнатар Джон Макэйн, прайграў.




Прычынаў паразы Дж. Макэйна й рэспубліканцаў называлі мноства – і недабор сродкаў на кампанію, і недарэчны выбар асобы на пасаду віцэ-прэзыдэнта, і занадта лагодную паставу Макэйна падчас дэбатаў, і некампэтэнтнасьць ягонай выбарчай каманды. Не бяруся судзіць Сару Пэйлін або падлічваць ды параўноўваць грошы, што былі ў перадвыбарчых куфрах Абамы й Макэйна. Аднак амаль з самага пачатку адчувалася, што Дэмпартыя хутка набрала дынаміку, эксплюатуючы пралікі адміністрацыі Дж. Буша. Каманда Абамы на ўсе лады перапявала асноўны лейтматыў сваёй выбарчай кампаніі: "Макэйн – гэта працяг палітыкі Буша", гэта "зноў тое, што было", а вось Абама – гэта зьмена. Засяродзіўшыся на гэтым, бьючы ў адну кропку, абамаўцы змусілі Макэйна адхрышчвацца ад асацыяцыяў з Бушам. І замест выстаўленьня сваёй пазыцыі, замест дыскусіі па прынцыповых пытаньнях – кампанія Макэйна занялася адбіваньнем камянёў, што ў наўмысна ў падступны спосаб пасыпаліся ў ейны гарод. Падобная практыка, дарэчы, назіраецца ў дзеяньнях абамаўцаў адносна цяперашняга апанэнта Абамы Міта Ромні – і кампанія Ромні часьцяком вядзецца на гэтую прынаду і выглядае гэтак жа разгублена й бяззуба – хаця, здавалася б, грошай у рэспубліканцаў цяпер хапае. Чаму не пасадзіць экспэртаў за відэазапісы кампаніі й дэбатаў 2008 году, каб, прынамсі, не паўтараць тых самых памылак, што і кампанія Макэйна?!

І вось тут акурат выходзіць на сцэну той комплекс грамадзкіх настрояў, што пануе сёньня сярод пераважнай большасьці людзей з вышэйшай адукацыяй, што лічацца сярэдняй клясай Амэрыкі. Гады, дзесяцігодзьдзі індактрынацыі ў духу марксізму, па шаблёнах Франкфурцкай школы, у спалучэньні з палітыкарэктнасьцю ды падступнай дзейнасьцю так званых агульнапрызнаных мэдыяў (Mainstream Media, MSM) далі масу насельніцтва, якая ня ў стане крытычна ўспрымаць сытуацыю ў краіне. Замест спробы самастойна аналізаваць падзеі ды асобы сярэднестатыстычны амэрыканец, хутчэй, арыентуецца на пазыцыю сяброў, калегаў, а галоўнае – на ідэі, аналізы й заклікі, што падносяць яму мэды, якія ў пераважнай большыні ёсьць левыя і паліткарэктныя, і дабраахвотна праводзячыя прапаганду палітыкі Абамы. У выніку і ствараецца менавіта такі комплекс настрояў у грамадстве, што небясьпечна падобны на тую сьляпую аднадушнасьць, якую вырабілі гвалтам бальшавікі, Мао і Пол Пот, і якую гэтак трапна апісаў калісьці Джордж Оруэл. Выглядае, што нават пасьпяховая капіталістычная сыстэма, нават пе-

Працяг на бачыне 2

# Верасьнёўскі сход Згуртаваньня "ПАГОНЯ"

У суботу, 15 верасьня, прайшоў чарговы, верасьнёўскікі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Сход адбыўся на вольным паветры ў Цэнтральным парку на паляне, што недалёка ад сажалкі й гістарычнага фантану са стэлай-анёлам. Надвор'е было цудоўным, зіхацела сонейка. Сход меркаваўся быць праведзены як нефармальная, без афіцыёзу, сустрэча землякоў, што сабраліся, каб падзяліцца сваімі думкамі, меркаваньнямі, ідэямі ды пажаданьнямі наконт узаемнай падтрымкі ды пашырэньня беларускай прысутнасьці ў ЗША.



Напачатку старшыня Згуртаваньня Віталь Зайка распавёў пра арганізацыю для тых, хто прыйшлі на сход упершыню, а пасьля распавёў пра сябе і свае пляны, задаючы тон для знаёмства і шчырай размовы, каб растапіць лёд стрыманасьці й насьцярожанасьці, нажаль, гэтак тыповых сярод беларусаў асабіста незнаёмых міжсобку.

Затым коратка са словам пра сябе выступіў кожны з прысутных, згадваючы, дзе вучыўся і працаваў, калі прыехаў у Амэрыку, якія мае пляны. Цікавым прыкладам плянаў стаў аповед хлопца, па адукацыі кухара, які зьбіраецца стварыць у Амэрыцы сваю рэстарацыю беларускай кухні, у якім, між іншага, поруч з традыцыйнымі й шырока вядомымі былі б прадстаўленыя старадаўнія стравы й напоі, што сягаюць у часы Вялікага Княства Літоўскага, а інтэр'ер быў бы адпаведна выкананы з прыцягненьнем гістарычных матываў, зьвязаных са старабеларускай дзяржавай.

Шэраг людзей цікава распавялі пра сваю цяперашнюю працу або вучобу. Геаграфія месцаў, адкуль прыехалі ў Амэрыку ўдзельнікі сходу, досыць шырокая. Акрамя Менску гэта Гомель, Масты, Наваполацак, Горадня, Бабруйск, Ворша, Берасьце. Геаграфія тут у Амэрыцы – таксама шырокая, акрамя Нью-Ёрку й Нью-Джэрзі гэта Пэнсільвэнія, Масачусэтс, Флёрыда і нават Сан-Францыска ў Каліфорніі. Сярод больш сталых сябраў арганізацыі зь цікавымі зьвесткамі пра сябе й свой досьвед у Беларусі й Амэрыцы выступілі сп-ня Валя Якімовіч і сп. Віктар Едзіновіч.

Пасьля сп. Віталь Зайка закрануў тэму перамены статусу ў ЗША, згадаў пра старонку "Юрыдычная дапамога" на сайце арганізацыі. Прамоўца спыніўся на некаторых асаблівасьцях магчымых прапановаў аб набыцьці статусу і заклікаў усіх, хто хацеў бы парэкамэндаваць свайго адваката для землякоў, або наадварот, засьцерагчы ад магчымых махляроў у юрыдычнай сфэры – дасылаць, хаця-б коратка, інфармацыю пра адвакатаў на сайт арганізацыі "Пагоня".

Падчас сустрэчы ў парку прысутныя маглі пачаставацца прысмакамі, падобнымі на тыя, што ёсьць на Бацькаўшчыне – шынка, чорны хлеб, каўбасы. Прысутныя таксама мелі нагоду калегавацца паасобку, навязваць асабістыя кантакты й знаёмствы, у чым, уласна кажучы, палягае дадатковы – і не малы – сэнс падобных сустрэчаў.

***Віталь ЗАЙКА***

## NOBAMA

***Працяг зь першай бачыны***

рамога ў барацьбе з таталітарызмам падчас халоднай вайны ня ёсьць абаронай ад хваробы, што дзесяцігодзьдзямі точыць грамадзтвы Вольнага сьвету, а цяпер яскрава праяўляецца і ў ЗША.

Накінутая "чырвонай прафэсурай" ірацыянальная саманянавісьць, пагарда ў дачыненьні да моцы й дасягненьняў Амэрыкі яскрава выявілася ў абраньні на пасаду прэзыдэнта ЗША "ката ў мяшку". Выбаршчыкам было даволі ведаць, што гэты "кот" – расава належыць да чорных, мае нетыповае для амэрыканцаў прозьвішча. Што ён абяцае вывесьці з "тупіку", у якім, быццам, знаходзіцца краіна, прынесьці "зьмены", "даць надзею". Ці варты ён пасады, ці мае ён досьвед, ці здольны выканаць наабяцанае – такія пытаньні не ўставалі ў колах прыхільнікаў Абамы. Эстэтычнае захапленьне тым, што вось-вось чарнаскуры пераб'е доўгую пракаветную чараду белых прэзыдэнтаў, што вось-вось адбудзецца гістарычная справядлівасьць і прадстаўнік прыгнечанай меншыні ачоліць краіну, як паўтараюць левакі, "збудаваную на крыві й поце чорных нявольнікаў" – было той павязкай на вачох, што дасюль не дае паглядзець на Абаму больш уважліва і крытычна. А таксама прааналізаваць ягоную біяграфію, кола ягоных сяброў і знаёмых, зьмест ягоных прамоваў і перадвыбарчых заяваў і галоўнае – прааналізаваць ягоныя дзеяньні на пасадзе прэзыдэнта ЗША.

Адкрыта заяўляючы, што ягоная мэта – перараразьмеркаваньне дабротаў, стварэньне сравядлівага парадку ў грамадзтве, прадстаўленьне ўсім мэдычнай дапамогі, рэзкае падвышэньне колькасьці насельніцтва, што жыве за кошт дзяржаўнай дапамогі, Барак Хусэйн Абама ўсяляк адхрышчваўся ад абвінавачаньняў у сацыялізме. Падтрымліваючы "пенкнадушныя" экалягічныя праекты, як кампанію сонечных батарэяў "Саліндра" ды электрычных аўтаў, Абама непасрэдна гахнуў у прорву мільярды грошай падаткадаўцаў. Але, не міргнуўшы вокам, зрабіў усё, каб не дазволіць атрыманьне канадыйскай нафты ды распрацоўку ўласных амэрыканскіх радовішчаў нафты й газу. Паабяцаўшы зьні-

***Заканчэньне на наступнай бачыне***

жыць працэнт беспрацоўя ўжо ў першы год на пасадзе, Абама ня толькі не выканаў гэтага абяцаньня, але фактычна дапусьціў далейшае падвышэньне ўзроўню беспрацоўя. Эканамічны рост зьменшыўся, і фантастычна павялічыўся дзяржаўны доўг ЗША. Пры гэтым урад Абамы працягваў пазычаць фінансавыя сродкі, штораз ідучы на скалькуляваныя канфлікты з Кангрэсам, каб паказаць сябе змагарамі за народ, а кантралюючых Кангрэс рэспубліканцаў, што патрабуюць фінансавай дысцыпліны, выставіць як “бяздушных паслугачоў капіталу”, якім “абыякавае народнае гора”.

Абавязкавае мэдстрахаваньне, фактычна – нацыналізацыя шэрагу галінаў аховы здароўя , прынятае адмінтстрацыяй Абамы, вядуць краіну, у якой і так не хапае мэдычных кадраў, да становішча, што будзе нагадваць савецкую “агульнадаступную” мэдыцыну з усімі яе “прыемнасьцямі”. Але гэты папулісцкі праект ад пачатку быў скіраваны хутчэй на гарантаваньне другога тэрміну для Абамы, чымся на вырашэньне праблемаў мэдабслугоўваньня.

У справах іміграцыі Абама ня выканаў сваіх абяцанак аб амністыі імігрантам-нелегалам, скіраваных на прыцягненьне да сябе растучай грамады гішпанамоўных. Ён не правёў таксама рэальную іміграцыйную рэформу, што спыніла б “скокі праз паркан”. У выніку празь мяжу імкне, поруч з гаротнікамі-шукальнікамі працы, мэксіканскі ды іншы злачынны сьвет, зброя, наркотыкі, і – ісламскія тэрарысты. Парушэньне мяжы звышдзяржавы перастала быць злачынствам; нелегалы, дзякуючы “бацькоўскай” апецы псэўдалібэралаў, маюць амаль усе правы легальных жыхароў і грамадзянаў ЗША. Гэта робіцца з прыцэлам на тое, што галасаваць яны будуць, натуральна, за дэмакратаў – ідзе бессаромны імпарт электарату, спыняць які Абаму, відавочна, няма ніякага рэзону.

У міжнародных справах некампетэнтнасьць Абамы нагадвае эканамічную. Пакладаючыся на свой “шарм” і колер скуры, Абама спадзяваўся зачараваць аўтарытарных дыктатараў ды фундамэнталістаў. Абама фактычна адмовіўся ад падтрымкі й прапаганды дэмакратыі ў краінах трэцяга сьвету і былога СССР. Ён усяляк абмяжоўваў ды прыцішваў уплыў і дасягненні Амэрыкі, ледзь не выбачаючыся за іх, як гэта было падчас ягонай праграмнай прамовы ў Каіры. Чаго варты ягоны паклон у пояс каралю Саўдаўскай Арабіі – ганебны самапрыніжальны жэст, якім Абама пэўна хацеў паказаць мізэрнасьць і “бясшкоднасьць” Амэрыкі – жэст, які наўмысна абыйшлі ўвагай усе паліткарэктныя мэдыі. У выніку Абама так і не падвысіў павагу да ЗША ў сьвеце, і быў захоплены зьнянацку падзеямі так званай “арабскай вясны”, што на самой справе больш вартая звацца “ісламскай зімой”.

Разгубленасьць і нерашучасьць Абамы сталі яскрава бачныя падчас масавых антыамэрыканскіх ісламскіх дэманстрацыяў па сьвеце ў верасьні 2012 г. Але калі гэта стаў крытыкаваць рэспубліканскі кандыдат Міт Ромні, на яго пасыпаліся абвінавачаньні ў “неразуменьні сытуацыі”, і што “цяпер ня час для крытыкі”. Абама кепліва заявіў, што Ромні перш страляе, а потым цэліць. Але калі ўважлівей паўзірацца ў ход падзеяў, дык робіцца бачгым, што адміністрацыя Абамы не супрацьстаіць ісламісцкай навале, а шукае задобраньня й прылашчаньня радыкалізаваных супрэматысцкіх сілаў, для якіх дэмакратычная Амэрыка і Вольны сьвет вінаватыя ўжо самым фактам свайго існаваньня. Падлашчвацца да іх мае гэтульні ж сэнсу, як гэбраям было б лашчыцца да эсэсаўцаў у Асьвенцыме. У нашым выпадку – калі кіраўнік звышдзяржавы лашчыцца да купкі краінаў з жабрацкім цемрашальскім насельніцтвам і выбачаецца за неіснуючыя правіны – міжволі напрошваецца пытаньне: ці тут нейкая змова, ці нейкі непарадак у галаве гэтага кіраўніка?




Такім чынам, здавалася б, куды ня кінь, у кожнай дзялянцы прэзыдэнцкай дзейнасьці навідавоку правалы, пралікі, некампэтэнтнасьць. Да таго-ж сам Абама заяўляў пры абраньні, што калі за 4 гады прэзыдэнцтва ня выканае абяцанага – дык ня будзе шукаць другога прэзыдэнцкага тэрміну. Але Абама балятуецца на другі тэрмін зь лёзунгам ужо ня “Зьмена”, але “Наперад”! Наперад куды? У прорву? Нажаль, дзякуючы ідэалягічнай асьлепленасьці грамадзтва, небясьпека пераабраньня Абамы досыць рэальная. Ніхто з псэўдалібэралаў ня кажа, што гэта “More of the same”. Абаму прабачаюцца ўсе правалы й пралікі, ізноў жа – пад тым прэтэкстам што ён мае, бач ты, высакародныя памкненьні, але “яму перашкаджаюць”. Як гэта нагадвае першыя тэрміны прэзыдэнцтва Лукашэнкі – таму таксама”перашкаджалі”. Сутнасьць жа трыманьня псэўдалібэралаў за Абаму – у ідэалізацыі расавых пытаньняў, у “афірматыўнай акцыі”, калі на падставе свайго колеру скуры прадстаўнік чорнай меншыні, такі як Абама, разглядаецца грамадзтвам згодна з заніжанымі стандартамі й атрымлівае фору перш у каледжы, потым пры пошуку працы, а пасьля – у кожнай іншай дзялянцы. Ня выключана, што Абама трапіў у Калюмбійскі унівэрсытэт, і скончыў яго – дзякуючы менавіта “афірматыўнай акцыі”, але праверыць гэта пакуль немажліва – ягоныя паперы ва ўнівэрсытэце (а таксама ў розных іншых месцах) былі закрытыя для вывучэньня. Нават рэспубліканцы прагінающца перад паліткарэктнасьцю, ніколі ня згадваючы ягонага сярэдняга імя Хусэйн, не прыцягваючы ўвагі да ягонага “расізму наадварот”, а на самой справе – чорнага расізму, які карыстае расавыя пытаньні як дубіну, каб забіваць палітычных апанэнтаў ды выбіваць ляяльнасьць ды самаабвінавачаньні з ачмуранага псэўдалібэралізмам белага насельніцтва ЗША. І таму ўся так званая лібэральная грамада запрашае суайчыньнікаў ступіць другі раз на граблі, якімі тыя ўжо атрымалі між вачэй, з падвышэньнем беспрацоўя, дзярждоўгу, нестабільнасьці, разьяднанасьці.

Разам з тым ёсьць надзея, што суворыя рэаліі жыцьця страсянуць грамадзянаў ЗША, адкрыюць вочы ды змусяць задумацца, ці можа дэмагогія ды фразёрства замяніць нармальнае эканамічнае разьвіцьцё, даць працоўныя месцы й зьменшыць дзяржаўны доўг. Прыгожая казка аб вяршэнстве расавай справядлівасьці паказвае свае іклы, так як калісьці казачка бальшавікоў пра справядлівасьць сацыяльную. Колькі ж мільёнаў жыцьцяў каштавала даверлівае падпарадкаваньне той казцы, што перарабілася ў пякельны кашмар – але гісторыя яшчэ раз паказвае, што яна нічаму ня вучыць. Можна толькі дзівіцца, што гэткае шкоднае пустазельле як праграма й дзейнасьць Абамы ўзыходзіць на такой урадлівай глебе, як дэмакратычнае амэрыканскае грамадзтва. Амэрыка вартая большага і мусіць вырваць ды выкінуць марнуючае сродкі ды час пустазельле, мусіць скінуць з вачэй атрутны вэлюм псэўдалібэральнай чмуты й зрабіць адзіна слушны выбар у лістападзе – пазбыцца няўдалага і няздольнага левака і прагаласаваць за Міта Ромні – пасьпяховага прадпрымальніка і губэрнатара. Міт Ромні можа не такі спрытны гаварун і ня так моцна закаханы ў сябе, як Барак Хусэйн Абама, але прынамсі свае багацьці Ромні здабыў сваім глуздам ды энэргіяй, а не пераразьмеркаваньнем.

***Віталь ЗАЙКА***




# Запрашаем на прэзэнтацыю літаратурнага альманаху “БЕЛАРУС” за 2012 год

Імпрэза адбудзецца падчас кастрычніцкага сходу Згуртаваньня “Пагоня”, што пройдзе вечарам у суботу **20 кастрычніка 2012 году**. (Гл. абвестку ніжэй.)

Удзельнікі прэзэнтацыі змогуць сустрэцца і пагутарыць з аўтарамі і выдаўцамі альманаху, а таксама набыць выданьне са зьніжкаю, што будзе дзейнічаць толькі падчас прэзэнтацыі.

Запрашаем прыходзіць усіх зацікаўленых.

У сёлетнім нумары штогадовіка прадстаўленая творчасьць 24 беларускіх літаратараў, што жывуць у 10 краінах сьвету. Ніжэй падаем поўны зьмест нумару.



## Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíí³:

| | |
|---|---|
| Р. Аліфін | 50 |
| М. Асецкі | 50 |
| В. Богдан | 50 |
| К. Булаўко | 50 |
| В. Васёхіна | 50 |
| С. Голуб | 50 |
| Ю. Кажан | 50 |
| І. Клімчэня | 50 |
| В. Козырава | 50 |
| А. Кузьміцкая | 50 |
| В. Кулеш | 50 |
| І. Кулеш | 50 |
| К. Тоўсьцік | 50 |
| В. Шаўчэнка | 50 |
| М. Шулейка | 50 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
P. O. Box 572
New York, NY 10113
**Чэкі выпісвайце на імя**
Valentina Balashchenko.

*Паважаная **Аксана Кузьміцкая**, калі ласка, паведаміце рэдакцыі ваш дакладны паштовы адрасы.*

# Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”** адбудзецца **ў суботу 20-га кастрычніка 2012 году.**

Месца правядзеньня сходу:

***Seafarers and International House 123 East 15th Street New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да станцыі падземкі **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад Union Square па 15-й вуліцы на скрыжаваньні з Irving Place.*

***Заля знаходзіцца на другім паверсе будынка.***

Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

***На сходзе адбудзецца прэзэнтацыя літаратурнага альманаху “БЕЛАРУС” за 2012 год.***

------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных арганізацыяй, можна даведацца, наведаўшы ў інтэрнэце ўэбстаронку **www.baza-belarus.org***

## Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

| | |
|---|---|
| М. Асецкі | 30 |
| А. Ахмяненка | 30 |
| В. Богдан | 30 |
| В. Васёхіна | 30 |
| С. Голуб | 30 |
| А. Дубавая | 30 |
| Ю. Кажан | 30 |
| І. Клімчэня | 30 |
| В. Козырава | 30 |
| А. Кузьміцкая | 30 |
| І. Кулеш | 30 |
| К. Тоўсьцік | 30 |
| М. Шулейка | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***VIESTKI***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі з адзнакаю **“Весткі”** выпісвайце на імя*
***Valentina Balashchenko.***
*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы сайт **www.e-krama.com***